

**Раіса Андрэеўна Баравікова** нарадзілася 11 мая 1947 г. у вёсцы Пешкі Бярозаўскага раёна Берасцейскай вобласці ў сям'і служачага. Пасля заканчэння Бярозаўскай сярэдняй школы пачала працаваць у быхаўскай раённай газеце «Маяк Прыдняпроўя» літсупрацоўнікам. Скончыла аддзяленне мастацкага перакладу Літаратурнага інстытута ў Маскве. Працавала рэдактарам кінастудыі «Беларусь-фільм», у газетах «Літаратура і мастацтва», «Чырвоная змена», часопісе "Алеся". Зараз - галоўны рэдактар часопіса "Маладосць". Сябра СП СССР з 1977 г.

У друку выступае з 1960 г. Аўтар шматлікіх зборнікаў паэзіі, прозы і драматургіі. Перакладае з расійскай, украінскай і польскай моў.

Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя.Я.Купалы і Літаратурнай прэміі імя А.Куляшова.



**Мікалай Адамавіч Яцкоў** нарадзіўся 22 мая 1959 г. ў Магілёве. Скончыў Магілёўскае культасветвучылішча імя Н.К.Крупскай, а потым Мінскі інстытут культуры. Служыў у войску. З 1981 года працуе дырэктарам Брылеўскага сельскага Дома культуры Магілёўскага раёна. Член Саюза беларускіх пісьменнікаў. Актыўна выступае як кампазітар-песеннік. Напісаў больш за 900 песен на вершы беларускіх паэтаў. Аўтар песенных зборнікаў "Гронка бэзу" (на вершы Тамаша Ляшонка), "Знічка" (на вершы Івана Карэнды) і інш. Аўтар музыкі афіцыйна зацверджанага "Гімна Магілёва".



# Не ламіся ў хату, вецер...

Словы Раісы Баравіковай

Музыка Міколы Яцкова

♩ = 80

Dm Gm A7 Dm
Не ла - мі - ся ў ха - ту, ве - цер,

3 Gm C F Gm A7
толь-кі ко-сань-ку па- мы - ла, пры-та-іў-ся пад па-ве-ец-

6 B Gm A7 Dm A7
цю най-ха-рош-шы ды ня - мі - і - лы

9 Dm Gm A7 Dm
Ста - ну ко - сань - ку ча - са - ці,

11 Gm C F
з рук гра-бень-чык вы - па - да - е,

13 B D Gm
не змаг-ла ў па - ру ска - за - а - ці - і,

15 Dm A7 Dm Dm Gm A7
сам, ча-ка-ла, за-пы - та - е. Ой, ча-му ў сад-ку зя-лё -

18 Dm Gm C F
ным ма-я сцеж-ка дый пры ру - жах,

21 Gm A7 B
а я - го сця-жы - на ў по - о - лі

# Вяртанне



*Раіса Баравікова*
*Мікола Яцкоў*

23 Gm A7 | Dm A7 | Dm Gm A7
і над ё-ю лі-ха кру-у-жы-ыць. Лі-ха чор-на-е, як ноч

26 Dm | Gm C | F
ка, сам, ча-ка-ла, за-пы--та - е,

29 B D Gm
хто мне ў ко-сань-ку ў са-до - о - чку - у

31 Dm A7 | Dm A7 | Dm Gm A7
ру-жу дзі-ку-ю ўпля-та - е______ У-пля-та-е, рук не ко-

34 Dm | Gm C | F
ле, я ка-люч-кі па-зра-за - ла,

37 B D Gm
да ад-ной са-бра - ла до - о - лу - у,

39 Dm A7 | Dm
пад па-вец-цю рас - кі - да - ла.

41 Dm Gm A7 | Dm
Каб не ўлез у то - е смец - це

43 Gm C | F
най-ха-рош-шы ды ня - мі - лы,

45 Gm A7 B

ты ска-жы я - му, мой ве - е - цер,

47 Gm A7 Dm A7

што я ко-сань-кі не мы - ы - ла - а.

49 Dm Gm A7 Dm Gm C

Шчэ не мы-ла, не ча-са-ла і ва-дзі-цы не на-сі -

52 F B D Gm

ла, бо ка-люч-кі я зра-за - а - ла - а,

55 Dm A7 Dm B D Gm

ру-жу дзі-ку-ю гу - бі - ла, бо ка-люч-кі я зра-за-а

58 Dm A7 Dm

ла - а, ру-жу дзі-ку-ю гу - бі - ла.



*Раіса Баравікова*
*Мікола Яцкоў*

Не ламіся ў хату вецер,
Толькі косаньку памыла,
Прытаіўся пад павеццю
Найхарошшы, ды нямілы.
Стану косаньку часаці,
З рук грабеньчык выпадае, --
Не змагла ў пару сказаці,
Сам, чакала, -- запытае:

Ой, чаму ў садку зялёным
Мая сцежка дый пры ружах,
А яго сцяжына ў полі
І над ёю ліха кружыць.
Ліха чорнае, як ночка,
Сам, чакала, -- запытае,
Хто мне ў косаньку ў садочку
Ружу дзікую ўплятае.
Уплятае, рук не коле,
Я калючкі пазразала,
Да адной сабрала з долу,
Пад павеццю раскідала.

Каб не ўлез у тое смецце
Найхарошшы, ды нямілы,
Ты скажы яму, мой вецер,
Што я косанькі не мыла.
Шчэ не мыла, не часала
І вадзіцы не насіла,
Бо калючкі я зразала, --
Ружу дзікую губіла;
Бо калючкі я зразала, --
Ружу дзікую губіла.

# Ой ды за акенцам...

Словы Раісы Баравіковай | Музыка Міколы Яцкова

♩ = 80

Dm B C F
Ой ды за а-ке-ен-цам ні бур'-ян, ні ру-у-жа,

7 B C F Gm A7 Dm
за ма-ім а-ке-ен-цам уз-ня-ла-ся сцю-у-жа,

13 B C F Gm A7 Dm
за ма-ім а-ке-ен-цам уз-ня-ла-ся сцю-у-жа.

Ой ды за акенцам ні бур’ян, ні ружа,
За маім акенцам узнялася сцюжа,
За маім акенцам узнялася сцюжа.

Сцюжа узнялася, сцелецца вятрыскам,
То сіпіць здалёку, то смяецца зблізку,
То сіпіць здалёку, то смяецца зблізку.

Хто яе суніме, хто яе ўгамоніць
І чые ля ганка вараныя коні?
І чые ля ганка вараныя коні?

Коні вараныя, песні балагола,
Сяду і паеду па раўніне голай,
Сяду і паеду па раўніне голай.

Па раўніне голай, дзе гуляе сцюжа,
Улагоджваць ветры, забываці мужа,
Улагоджваць ветры, забываці мужа...

# Жаночы лёс

Словы Раісы Баравіковай — Музыка Міколы Яцкова

♩ = 84

C
Як ці-ха яб-лы-ні шу-мяць у

3 Dm G
на-шым са-дзе, да-вай жа, ма-ма, ля ак-на з та-

5 C Am
бой пры-ся-дзем, пач-ну рас-сказ-ваць пра ся-бе, та-

7 D Dm
бе ці-ка-ва, а мне ла-віць бы на са-бе па-

9 E7 Am Dm
гляд ла-ска-вы. Жа-но-чы лёс, ня-прос-ты лёс, я

11 G C Dm
гэ-та зна-ю, у-дос-таль сме-ху, ўдос-таль слёз, у-

13 E7 Am Am Dm
сё пры-ма-ю, да сэр-ца бліз-ка не бя-ры ма-

15 G C
е ня-го-ды, я-

16 Dm F Dm E7 Am (G)
шчэ спя-ва-юць са-лаў-і мне це-раз го-ды.

## Вяртанне

*Раіса Баравікова* 9

Як ціха яблыні шумяць у нашым садзе,
Давай жа, мама, ля акна з табой прысядзем,
Пачну рассказваць пра сябе, -- табе цікава.
А мне лавіць бы на сабе пагляд ласкавы:

П р ы п е ў : Жаночы лёс –няпросты лёс, я гэта знаю,
Удосталь смеху, ўдосталь слёз –
усё прымаю,
Да сэрца блізка не бяры мае нягоды,
Яшчэ спяваюць салаўі мне цераз годы.

Як ціха яблыні шумяць у нашым садзе,
Мы адвячоркам ля акна з табой прысядзем,
Цень адвячоркавы, густы на шыбку ляжа,
Табе пра тое, што ўтаю, вясна дакажа.

П р ы п е ў : Жаночы лёс –няпросты лёс, я гэта знаю,
Удосталь смеху, ўдосталь слёз –
усё прымаю,
Да сэрца блізка не бяры мае нягоды,
Яшчэ спяваюць салаўі мне цераз годы.



# Не плач, мама!..

Словы Раісы Баравіковай — Музыка Міколы Яцкова

♩ = 72

3 G C

5 Am Dm

7 E7 1. Am E7

9 A7 2. Coda F G

Ад-ры - ва - ю - ся зноў ад па - ро - га, я пра - шу ця - бе, ма - ма, не плач, дай што - не - будзь сва - ё на да - ро - гу і за лас - ку ску - пу - ю пра - бач. Ты з паг-// плач, а на лёс па-ца-луй.

Dm



Адрываюся зноў ад парога,
Я прашу цябе, мама, не плач!
Дай што-небудзь сваё на дарогу
І за ласку скупую прабач.

Ты з пагляда сатры павалоку,
Прыхавай, мая мама, слязу,
Бо не раз я, напэўна, здалёку
Да цябе ўсё сваё прывязу.

Невядомае шчасце ці гора,
За яго гэтым ранкам даруй,
Я не знаю, чым годы адораць,
Ты не плач, а на лёс -- пацалуй.



# Восеньскі сад

Словы Раісы Баравіковай

Музыка Міколы Яцкова

♩ = 100

Dm A7
Пры - ту-шыць дождж а - гень-чык па-чуц-

3 Dm B D Gm
ця, у не-бе жо-раў кры-кам ад-за - вец- ца, а

6 Dm A7
я спы-та-ю, як та-бе жы - вец- ца, ці вы-ча-каў ты до-лю ад жыц

9 Dm D Gm Dm
ця - -, а я спы-таю-ю, як та-бе жы-вец - ца, ці

12 A7 Dm
вы- - ча - каў ты до - лю ад жыц- - ця. Ка -

14 Gm Dm
лы - ша ве - цер гэ - ты ці - хі сад, па -

16 C F D
слу - хай толь- кі, му - зы - ка я- - ка - я, я

18 Gm Dm
не я - е, ка - ха - ны мой, ча - ка - ла, я

20 A7 Dm D Gm
ду-ма-ла, ты вер-неш-ся на - за - ад, я не я-е, ка-ха-ны мой, ча

23 Dm A7 Dm
ка - ла, я ду-ма-ла, ты вер-неш-ся на - зад.

Прытушыць дождж агеньчык пачуцця,
У небе жораў крыкам адзавецца,
А я спытаю – як табе жывецца,
Ці вычакаў ты долю ад жыцця?
А я спытаю – як табе жывецца,
Ці вычакаў ты долю ад жыцця?

П р ы п е ў : Калыша вецер гэты ціхі сад,
Паслухай толькі, музыка якая!..
Я не яе, каханы мой, чакала,
Я думала, ты вернешся назад,
Я не яе, каханы мой, чакала,
Я думала, ты вернешся назад.

Калі ж аднойчы з'явішся сюды,
Што адшукаеш тут, сярод лістоты,
Ды не шукай цяпла маёй пяшчоты
Там, дзе жалобы восеньскай сляды,
Ды не шукай цяпла маёй пяшчоты
Там, дзе жалобы восеньскай сляды.

П р ы п е ў : Калыша вецер гэты ціхі сад,
Паслухай толькі, музыка якая!..
Я не яе, каханы мой, чакала,
Я думала, ты вернешся назад,
Я не яе, каханы мой, чакала,
Я думала, ты вернешся назад.



# Трошкі шкада...

Словы Раісы Баравіковай — Музыка Міколы Яцкова

♩ = 72

Dm G
За - чэ - пiц - ца сон - ца за

3 Em A7 Dm E7
снеж - ну - ю гор - ку, і хлы - не ўда - лі - ну па -

5 Am F G
то - кам ва - да, за - бу - ду а - пош - ню - ю

7 Em A7
на - шу га - вор - ку, а

8 Dm Am Dm E7 Am
ўсё - та - кі не - ча - га трош - кі шка - да.



Зачэпіцца сонца за снежную горку,
І хлыне ў даліну патокам вада…
Забуду апошнюю нашу гаворку,
А ўсё-такі… нечага трошкі шкада.

Ніколі не выспее яблык дачасна,
За радасцю часта прыходзіць нуда…
Сказаць не магу, каб была я няшчаснай,
Ды ўсё-такі… нечага трошкі шкада.

Бывае, заўважу ў аконным прёме,
Пытаюцца, хто ты – такая бяда! –
Спакойна адказваю – проста знаёмы,
І ўсё-такі… нечага трошкі шкада.



# Новыя берагі

Словы Раісы Баравіковай

Музыка Міколы Яцкова

♩ = 100

Dm A7 Dm

Ад-плы - вуць за пяс-ча-ну-ю выс-пу ад-га-

4 Gm C F B D

рэ - ла-га ле - та ды- мы, я ця - бе а-дзі-но - та-ю

7 Gm Dm A7 1. Dm

выс- ню, ты мя - не на-па-след аб-ды - мі. Ва - ла- //

10 2. Dm Gm C F

-гонь. Ноч аг - ня - мі ў ак - не ад-мір-га - е,

13 Gm C F B

пры-муць но - вы - я нас бе-ра- гі, за мя - не да-ка-

16 C F Gm A7 Dm

ха - е дру-га - я, за ця - бе да-ца - лу-е дру - гі.



## Вяртанне

*Раіса Баравікова*
*Мікола Яцкоў*

17

Адплывуць за пясчаную выспу
Адгарэлага лета дымы,
Я цябе адзінотаю высню,
Ты мяне напаслед абдымі.

Валасоў маіх ніць залатая
Ападзе на гарачую скронь,
Не трымаю! Няхай адлятае
Неразумнага сэрца агонь.

П р ы п е ў : Ноч агнямі ў акне адміргае,
Прымуць новыя нас берагі,
За мяне адкахае другая,
За цябе дацалуе другі.

На галінах, ад ветру каляных.
Захлынаецца лісце ў журбе,
У імя несустрэтых каханых
Я аднойчы забуду цябе.

Там, дзе верасень пройдзе ўрадлівы,
Дзе крынічны заб’ецца выток,
Упадзе на зямлю сіратлівы
Адгарэлага лета лісток.

П р ы п е ў : І нішто не ўстрывожыць з гадамі,
Не ўсхвалюе чаканым званком,
За цябе адсумую радкамі,
За сябе абляцелым лістком.

Ноч агнямі ў акне адміргае,
Прымуць новыя нас берагі,
За мяне адкахае другая,
За цябе дацалуе другі,
За мяне адкахае другая,
За цябе дацалуе другі.

# Снегапад

Словы Раісы Баравіковай

Музыка Міколы Яцкова

♩ = 100

За - мес-та слоў па-чаў-ся сне-га -

3 пад, а двор пра-пах сма-ло-ю ды іг - лі - цай, ча-

6 му мне гэ-так страш-на па-мы - ліц - ца, ска-

8 заць ба-ю-ся неш-та неў-па-пад. Між дрэў зі- ма не

11 ў пер-шы раз па-гляд ча-ру - е яр-кай бе-ліз-но-ю, не

14 трэ-ба вам раз - віт-вац-ца са мно- ю, я, мо - жа, ўсё жыц-

17 цё ча - ка - ла вас, не трэ - ба вам раз -

19 віт - вац - ца са мно - ю, я,

20 мо - жа, ўсё жыц-цё ча - ка - ла вас.

Заместа слоў пачаўся снегапад.
А двор прапах смалою і ігліцай,
Чаму мне гэтак страшна памыліцца, --
Сказаць баюся нешта неўпапад.

П р ы п е ў : Між дрэў зіма не ў першы раз
Пагляд чаруе яркай белізною,
Не трэба вам развітвацца са мною,
Я, можа, ўсё жыццё чакала вас;
Не трэба вам развітвацца са мною,
Я, можа, ўсё жыццё чакала вас.

Сняжынак рой, як зорнае сяйво,
Спяшае ноч да раніцы раскідаць,
Прыкрыю твар шчаслівы рукавом,
Каб вам безабароннасці не выдаць.

П р ы п е ў .

І позірк ваш дакорлівы злаўлю,
Як ловіць промень веснавая хмарка.
Няпраўда! Ну, якая ж я дзікарка,
Хіба вам не відно: я вас люблю...

П р ы п е ў .



# Вяртанне

Словы Раісы Баравіковай | Музыка Міколы Яцкова

♩ = 80

*Dm*
На - пэў - на мне не

3 *Em* *Dm*
пры - да - ло - ся, з да - лё - кай ней - кай

5 *E7* *Am* *Dm* *G*
даў - ні - ны вяр- - та - еш - ся, як дождж у

7 *C* *Dm*
во - сень, не пом - ніш ко - ліш- -

9 1. *E7* *E7* *Am*
няй ві - ны. Я // -чы ку - ды.



Напэўна, мне не прыдалося.
З далёкай нейкай даўніны
Вяртаешся, як дождж -- у восень,
Не помніш колішняй віны.

Я многа дзён жыла ў спадмане.
Не ўмела ў момант забываць,
Ды ў страсці, як і ў урагане.
Нічога нельга прадказаць.

Спакойна ў сэрцы, як на вежы,
Дзе зноў любому рада дню,
Ёсць у пачуццяў свае межы, --
Свой час згасання і агню.

Ўжо не салодка і не горка,
Ні шкадавання, ні нуды,
Як у дзяўчынкі, што з пагорка
Ляціць, не знаючы куды.



# Змест





